# Голас Радзімы

220005, Мінск,
праспект Ф. Скарыны, 44.
Цана 17 000 рублёў.

18 САКАВІКА 1999 ГОДА
№ 11 (2621)

Штотыднёвая газета
для суайчыннікаў за межамі Беларусі.
Выдаецца з 1955 г.




БЕЛАРУСЬ ПАСЛЯ ЧАРНОБЫЛЯ

## Зінаіда ПАЎЛОВІЧ, віцэ-прэзідэнт Беларускага Чырвонага Крыжа:

# «ВЫНІКІ АВАРЫІ ПРАЦЯГВАЮЦЬ СВАЕ НЕГАТЫЎНАЕ ДЗЕЯННЕ»

***На календары 1999 год. Пасля чарнобыльскай катастрофы прайшло амаль трынаццаць гадоў. Свет у першыя месяцы і гады пасля аварыі на Чарнобыльскай атамнай станцыі, размешчанай ва ўкраінскім гарадку Прыпяць, уражаны здарэннем і жудаснымі вынікамі, пакрысе забывае аб тым, што адбылося ў красавіку 86-га. Праблема нумар адзін для Беларусі, якая больш за ўсіх пацярпела ад выбуху на ЧАЭС, таксама паступова пераходзіць на другі план. Занадта ўжо многа ўсяго даводзіцца вырашаць у першую чаргу.***

***Аднак чарнобыльская тэма нікуды не дзелася, яна засталася, і вынікі аварыі працягваюць сваё негатыўнае дзеянне. У складаных умовах апынуліся дзяржава, грамадскія арганізацыі, у чые абавязкі ўваходзіць аказанне дапамогі людзям, што маюць патрэбу ў ёй. І тым не менш, як паказвае вопыт Беларускага Чырвонага Крыжа, дабрачынныя праграмы працягваюць ажыццяўляцца, нягледзячы на ўсе складанасці.***

— Праграмы, якімі сёння ў першую чаргу кіруецца Таварыства Чырвонага Крыжа, — расказвае Зінаіда ПАЎЛОВІЧ, — накіраваны на аказанне адраснай дапамогі малазабяспечаным слаям насельніцтва. У выніку эканамічнага крызісу ў складаным становішчы апынуліся практычна ўсе жыхары краіны. Ва ўзнікшай сітуацыі мы, як грамадская арганізацыя, павінны паклапаціцца, каб па магчымасці падтрымаць найбольш пацярпелыя групы насельніцтва. Адной з найважнейшых праграм застаецца чарнобыльская праграма. Яе актуальнасць і значэнне год ад году не змяншаюцца, а калі гаварыць шчыра, то праблема становіцца яшчэ больш актуальнай. Таму што наша насельніцтва, у тым ліку дзеці, на жаль, больш здаровымі не становяцца.

**— Што перашкаджае беларусам стаць здаровай нацыяй! Дарагоўля, абмежаваны асартымент прадуктаў харчавання ў магазінах, недасканаласць медыцынскага абслугоўвання, недастатковы жыццёвы ўзровень, які нараджае ў грамадстве псіхалагічны дыскамфорт!..**

— Пытанні харчавання, медыцынскага абследавання і медыцынскага абслугоўвання, на жаль, працягваюць стаяць даволі востра. І таму мы сваю дзейнасць будуем па некалькіх напрамках. Асновай доўгатэрміновай чарнобыльскай праграмы, якая рэалізуецца ўжо на працягу пяці гадоў, з'яўляецца работа дыягнастычных лабараторый. Мы змаглі даказаць нашым партнёрам — Міжнароднай Федэрацыі таварыстваў Чырвонага Крыжа і Чырвонага Паўмесяца — неабходнасць працягу гэтай праграмы на міжнародным узроўні. Вынікам увагі да гэтай праблемы стала тое, што з мінулага года на тэрыторыі нашай краіны замест двух працуюць тры дыягнастычныя лабараторыі. Прычым адбылося поўнае іх перааснашчэнне новым абсталяваннем. Гэтыя лабараторыі працуюць у Гомельскай, Магілёўскай і Брэсцкай абласцях на забруджаных тэрыторыях. Лабараторыі аснашчаны ўсім неабходным апаратыўным абсталяваннем для комплекснага абследавання розных катэгорый насельніцтва. Выніковасць гэтай работы высокая. Брыгада, што складаецца з васьмі чалавек, працуе круглы год у самых аддаленых рэгіёнах, дзе няма ўстаноў аховы здароўя. А калі ўлічваць тую акалічнасць, што ў забруджаных раёнах увогуле вузкіх спецыялістаў не хапае, то можна ўявіць, наколькі неабходная такая медыцынская дапамога. Мы пераканаліся: многія людзі, асабліва тыя, хто жыве ў Магілёўскай і Брэсцкай абласцях, комплекснага абследавання пасля аварыі не праходзілі.

Адна брыгада на працягу года абслугоўвае каля 15 тысяч чалавек. Пры гэтым не было ніводнага выпадку неабгрунтавана пастаўленага дыягназу. Каля 70 працэнтаў абследаваных па рэкамендацыі нашых спецыялістаў адразу ж накіроўваюцца на дадатковае абследаванне ці кансультацыі па тых ці іншых захворваннях.

Гаворачы аб абследаванні, варта адзначыць, што брыгады спецыялістаў працуюць поўнасцю на замежных абсталяванні і рэагентах. Да праграмы перыядычна падключаюцца Японія, Галандыя, Данія, Швецыя, Фінляндыя. І па меры таго, як яна развіваецца, фарміруецца і яе фінансаванне.

Ва ўзнікшых умовах падтрымліваць здароўе нацыі на неабходным узроўні няпроста. Сітуацыя застаецца складанай. Колькасць

(Заканчэнне на 2-й стар.).

ФЕСТЫВАЛІ

# СУКВЕЦЦЕ ТАЛЕНТАЎ

**Напярэдадні вясны ў Мінскім палацы прафсаюзаў стартаваў III Усебеларускі фестываль нацыянальных культур.**

...Маляўнічыя кадры кінахронікі II фестывалю, заключны этап якога праходзіў у маі 1998 года ў Гродне, сталі своеасаблівым камертонам свята і пажаданнем III фестывалю, які сёлета набыў статус усебеларускага. А потым на сцэну выйшлі і самі ўдзельнікі, адзін нумар змяняў другі — гучалі руская, украінская, малдаўская, літоўская, польская, азербайджанская, нямецкая, яўрэйская, цыганская песні, карэйскі плаўны танец з веерамі змяняўся рытмічным армянскім, здзіўляў сваім прыгожым малюнкам татарскі... І цяжка было аддаць перавагу камусьці з выканаўцаў, бо кожны нумар быў адметны і падобна кветцы ўплятаўся ў агульны прыгожы вянок.

Гасцямі на свяце адкрыцця фестывалю былі вядомы танцавальны калектыў "Неруш" Беларускага дзяржаўнага універсітэта і яўрэйскі вакальны гурт "Блукаючыя зоркі".

З добрымі пажаданнямі ад афіцыйных асоб і гледачоў III Усебеларускі фестываль нацыянальных культур пачаў свой шлях. Ён прыйдзе ў пасёлкі, вёскі, абласныя цэнтры і завершыцца ў Гродне ў маі-чэрвені 2000 года.

(Заканчэнне на 2-й стар.).



*Члены суполкі татар-мусульман "Аль-Кітаб" выконваюць нацыянальны танец.*

*Тыдзень: Фестывалі. Падзеі.*

# «ВЫНІКІ АВАРЫІ ПРАЦЯГВАЮЦЬ СВАЁ НЕГАТЫЎНАЕ ДЗЕЯННЕ»

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)

прааперыраваных на недабраякасную пухліну шчытападобнай залозы перавысіла 600 выпадкаў. Давайце параўнаем: у Японіі пасля выбухаў атамных бомб за ўвесь наступны перыяд было выяўлена і прааперыравана ўсяго восем такіх выпадкаў. Найбольш складаная карціна назіраецца сярод дзяцей, падлеткаў.

Чарнобыльская праграма прадугледжвае таксама забеспячэнне дзяцей на забруджаных тэрыторыях вітамінамі і сухім малаком. Што і было зроблена летась.

**— Апошнім часам дэфіцытнымі становяцца многія лякарствы. Як востра адбіваецца гэтая праблема ў адносінах да дарослых і дзяцей, што пацярпелі ад аварыі на ЧАЭС!**

— Летась Міжнародная федэрацыя таварыстваў Чырвонага Крыжа і Чырвонага Паўмесяца ажыццявіла яшчэ адзін вельмі важны крок у рэалізацыі Чарнобыльскай праграмы — забяспечыла пастаўку ў Беларусь эльтраксіна. Гэты прэпарат неабходны людзям, што хварэюць на шчытападобную залозу, без пастаяннага прымянення якога яны абыходзіцца не могуць. Усе, хто перанёс аперацыі на шчытападобнай залозе, гэтым лякарствам былі забяспечаны бясплатна праз дыспансеры. Прэпарат дарагі, і складанасць заключаецца ў тым, што не кожны можа дазволіць сабе такое лячэнне. Акрамя таго, даны лекавы прэпарат нашай фармацэўтычнай прамысловасцю летась не закупляўся. І таму таварыства Чырвонага Крыжа — адзіны канал, што забяспечыў этыраксін.

**— Асаблівая тэма — дзеці, якія жывуць у забруджаных раёнах...**

— Тое, што гэтая праблема працягвае заставацца вострай, можна меркаваць па даных аб захворванні дзіцячага насельніцтва. Я нядаўна была ў Рагачове, што знаходзіцца ў пацярпелым рэгіёне. І статыстыка там, на жаль, па мінуламу году несуцяшальная. Толькі два працэнты выпускнікоў школ практычна здаровыя. Пяць гадоў таму назад па чарнобыльскіх раёнах гэтая лічба складала каля васьмі працэнтаў у год. За некалькі гадоў індэкс здароўя сярод дзяцей там значна знізіўся.

**— Якія фактары аказваюць негатыўны ўплыў на здароўе дзяцей!**

— Многія. І адзін з істотных фактараў, вядома ж, — незбалансаванае, нерацыянальнае харчаванне, якое ў большасці сваёй атрымліваюць дзеці ў сям'і. У выніку аслабляецца нармальны імунны статус арганізма. Гэта тычыцца не толькі чарнобыльскіх раёнаў, а і ўсяго насельніцтва Беларусі.

Аб'ектыўна і сур'ёзна ацэньваючы ўзнікшую сітуацыю, мы імкнемся падтрымліваць цікавасць міжнароднай супольнасці не толькі да Чарнобыльскай праграмы. Для супрацоўнікаў і актывістаў Чырвонага Крыжа быў праведзены шэраг семінараў па аказанню псіхалагічнай дапамогі людзям, што пражываюць на забруджаных тэрыторыях. Нашы спецыялісты пасля вучобы атрымалі магчымасць даваць дасведчаныя рэкамендацыі: як сёння можна знізіць залежнасць ад неспрыяльных фактараў псіхалагічнага характару, што ўздзейнічаюць на чалавека.

У гэтым годзе рэалізацыя праграм будзе працягвацца. І я думаю, што мы пры падтрымцы Міжнароднай федэрацыі таварыстваў Чырвонага Крыжа і Чырвонага Паўмесяца зможам рухацца далей.

**— Якія краіны вам аказваюць садзейнічанне ў рабоце!**

— Мы працягваем працаваць з японскім Чырвоным Крыжам. Японскія спецыялісты перыядычна прыязджаюць у Беларусь, праводзяць даследчую работу. Нам актыўна дапамагае галандскі Чырвоны Крыж па аздараўленню дзяцей з захворваннем на шчытападобную залозу, якія жывуць на забруджанай тэрыторыі. Гэтая праграма у нас паспяхова ажыццяўляецца на працягу трох гадоў. Цеснае і плённае супрацоўніцтва наладжана са шведскім, дацкім, фінскім, нямецкім Чырвоным Крыжам.

**— Як вядома, асобая роля ў падтрымцы Беларусі пасля чарнобыльскай катастрофы належыць Германіі. Гэтая краіна аказвае дзейсную дапамогу, якую беларускі народ глыбока цэніць.**

— Дзякуючы Германіі, быў створаны цэнтр трансплантацыі касцявога мозгу ў Мінску ў 9-й клінічнай бальніцы. Звыш 4 мільёнаў дойчмарак было зрасходавана на рэалізацыю праграмы. Немцы працягваюць па гэтай праграме працаваць не так энергічна, можа быць, як спачатку, але тым не менш даволі актыўна. Вялікая група беларускіх урачоў прайшла стажыроўку ў аналагічных цэнтрах Германіі. І цяпер у нас працуюць высокакваліфікаваныя, добра падрыхтаваныя спецыялісты.

Германія нам істотна дапамагае таксама ў аказанні адраснай падтрымкі. Толькі восенню мінулага года ёю было выдзелена каля 40 тысяч марак для дапамогі людзям, што пацярпелі ад паводкі і ўрагана. Мы падтрымліваем цесныя кантакты з германскім таварыствам Чырвонага Крыжа. Летась яго прэзідэнт наведаў Беларусь з афіцыйным візітам.

Прыкладаў пленнага беларуска-германскага супрацоўніцтва мноства. Па рэгіянальных дагаворах Пінскі і Мазырскі дамы міласэрнасці Чырвонага Крыжа існуюць дзякуючы партнёрскім сувязям з Германіяй. У нас досыць сумесных ініцыятыў і праграм, якія дапамагаюць падтрымліваць насельніцтва ў розных рэгіёнах.

**— Што прысылаюць вашы партнёры ў Беларусь!**

— З пастаўкамі медыкаментаў у апошні час узніклі некаторыя складанасці. Неабходны спецыяльны дазвальняльны сертыфікат. Медыкаменты павінны быць зарэгістраваны на тэрыторыі рэспублікі. Гэтыя працэдуры у некаторай ступені замаруджваюць і ўскладняюць іх дастаўку. Цяпер больш паступаюць адзенне, цацкі, вельмі неабходныя інвалідныя калыскі, сродкі догляду адзінокіх, састарэлых. Іх пастаўляюць у асноўным нямецкія партнёры. Прадукты харчавання мы набываем у Беларусі на грошы, якія нам прадастаўляюць нашы партнёры — камітэты, нацыянальныя таварыствы іншых краін.

**— Вас задавальняе якасць беларускіх прадуктаў!**

— Увогуле, так. Пры фарміраванні прадуктовых набораў улічваюцца сертыфікаты якасці. Мы набываем прадукты праз надзейнага партнёра — базу Белбакалея, якая нясе юрыдычную адказнасць за тое, што прапануовае.

**— Цяпер Нацыянальным сходам Рэспублікі Беларусь распрацоўваецца закон аб гуманітарнай дапамозе. На вашу думку, наколькі ён неабходны і дапаможа грамадскім арганізацыям, што займаюцца дабрачыннай дзейнасцю ў іх працы!**

— Думаю, што закон такі неабходны. А тое, наколькі ён дасканалы, пакажа практыка.

Гутарыла
**Наталля ЦЭГЛІНСКАЯ.**



*Выступаюць лаўрэаты II Рэспубліканскага фестывалю нацыянальных культур. Карэйскі народны танец з веерамі ўразіў і на гэты раз.*

# СУКВЕЦЦЕ ТАЛЕНТАЎ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

Вось некаторыя з мэт і задач, што замацаваны ў Палажэнні аб падрыхтоўцы і правядзенні сёлетняга фестывалю: гарманізацыя міжнацыянальных адносін сродкамі культуры; захаванне шматвяковых традыцый дабратворнага ўзаемадзеяння культурных нацыянальных суполак Беларусі; папулярызацыя лепшых узораў паэтычнага, музычнага, харэаграфічнага, выяўленчага, дэкаратыўна-прыкладнога мастацтваў нацыянальных суполак; стварэнне ў нацыянальных культурна-асветніцкіх аб'яднаннях, навучальных, культурна-асветных і пазашкольных установах новых самадзейных нацыянальных калектываў розных відаў і жанраў; даследаванне, аднаўленне і пераемнасць мастацкіх традыцый нацыянальных супольнасцей.

Падчас фестывалю пройдуць святы музыкі, песні, танца, Дні культуры, выставы мастакоў, страў нацыянальных кухняў, народных рамёстваў, паказ аматарскіх відэафільмаў, нацыянальных гульнявых праграм і нават конкурс нацыянальных анекдотаў. Адметнасць сёлетняга фестывалю ў тым, што ў ім самы актыўны ўдзел прымуць дзеці. У маі ў Мінску таксама намечана правесці І рэспубліканскі дзіцячы фестываль нацыянальных культур.

Распрацаваны і праект заключных мерапрыемстваў фестывалю ў Гродне. Праграма надзвычай насычаная і цікавая, і калі ўсё спраўдзіцца, то свята атрымаецца незабыўным. А яно і павінна быць такім!

**Марта КОСЦІЧ**



*Беларуская асацыяцыя ўкраінцаў "Ватра" была прадстаўлена дзіцячым танцавальным ансамблем "Барвінак".*

*Фота Марыі ЖЫЛІНСКАЙ.*

## НАЦЫЯНАЛЬНЫМ БАНКАМ УСТАНОЎЛЕНЫ КУРСЫ ЗАМЕЖНЫХ ВАЛЮТ З 03.03.99 г.

АФІЦЫЙНЫ КУРС

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1 аўстралійскі долар | 143400,46 | 1 літоўскі літ | 57477,01 |
| 1 аўстрыйскі шылінг | 18175,62 | 1 малдаўскі лей | 26364,66 |
| 1 азербайджанскі манат | 59,59 | 1 нямецкая марка | 127875,12 |
| 1 армянскі драм | 457,16 | 1 нарвежская крона | 28849,17 |
| 10 бельгійскіх франкаў | 61998,67 | 1 польскі злоты | 58073,48 |
| 1 балгарскі леў | 128,51 | 10 партугальскіх эскуда | 12475,04 |
| 1 венгерскі форынт | 990,27 | 1 расійсі рубель | 10050,00 |
| 1 галандскі гульдэн | 113491,34 | 1 румынскі лей | 17,84 |
| 10 грэчаскіх драхм | 7773,29 | 1 сінгапурскі долар | 132603,06 |
| 1 дацкая крона | 33660,67 | 1 славацкая крона | 5710,31 |
| 1 долар ЗША | 230000,00 | 1 таджыкскі рубель | 230,46 |
| 1 еўра | 250102,00 | 10 турэцкіх лір | 6,45 |
| 1 СДР | 313950,31 | 1 туркменскі манат | 44,23 |
| 1 ірландскі фунт | 317564,03 | 1 узбекскі сум | 2035,58 |
| 1 ісландская крона | 3171,54 | 1 украінская грыўна | 63835,69 |
| 10 іспанскіх песет | 15031,43 | 1 фінская марка | 42064,14 |
| 100 італьянскіх лір | 12916,69 | 1 французскі франк | 38127,80 |
| 1 канадскі долар | 150710,96 | 1 фунт стэрлінгаў | 369299,94 |
| 1 казахстанскі тэнге | 2677,53 | 1 чэшская крона | 6638,19 |
| 1 кувейцкі дынар | 754345,69 | 1 шведская крона | 27777,78 |
| 1 кыргызскі сом | 7525,98 | 1 швейцарскі франк | 157286,47 |
| 1 латвійскі лат | 392826,64 | 1 эстонская крона | 15990,99 |
| 10 ліванскіх фунтаў | 1520,66 | 10 японскіх іен | 190079,22 |

НАДВОР'Е

### ПАВОДКА ПА ЎСЁЙ КРАІНЕ

Як паведамляе Дзяржкамітэт па гідраметэаралогіі, на ўсіх рэках краіны працягваецца павышэнне ўзроўню вады веснавой паводкі. Інтэнсіўнасць складае 1—37 сантыметраў за суткі.

Найбольш складаная сітуацыя, адзначаюць спецыялісты-гідролагі, склалася на Гарыні каля Рэчыцы ў Столінскім раёне. Тут за кошт паступлення вады з верхняга ўчастка ракі і стварэння затораў лёду ўзровень вады дасягнуў небяспечнай адзнакі.

**Калектыў рэдакцыі «Голас Радзімы» выказвае спачуванне фотакарэспандэнту газеты Віктару Ставеру ў сувязі са смерцю МАЦІ.**



ДАЙДЖЭСТ



# ПАЛІТЫКА, ЭКАНОМІКА Ў АДЛЮСТРАВАННІ ПРЭСЫ

## АФІЦЫЙНЫЯ СМІ

*«НАРОДНАЯ ГАЗЕТА»*

## БЕЛАРУСЬ ЗАСТАНЕЦЦА СУВЕРЭННАЙ ДЗЯРЖАВАЙ

***Як вядома, пасля падпісання 25 снежня мінулага года Дэкларацыі аб далейшым яднанні Беларусі і Расіі пры адміністрацыях кіраўнікоў дзвюх краін былі створаны рабочыя групы па падрыхтоўцы дагавора аб утварэнні саюзнай дзяржавы. У Беларусі яе ўзначаліў Міхаіл Мясніковіч, у РФ — Мікалай Бардзюжа.***

***Памочнік Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Міхаіл САЗОНАЎ з'яўляецца намеснікам кіраўніка рабочай групы і адначасова — каардынатарам тэхнічнай групы распрацоўшчыкаў тэкста праекта дагавора.***

**— Міхаіл Юр'евіч, як "ідзе працэс"?**

— Нармальна. Арганізацыйны этап ужо мінаваў, план дзеянняў складзены, тэрміны ўзгоднены. Плануецца, што ў трэцім квартале бягучага года праект дагавора ўжо можа быць прадстаўлены вышэйшаму кіраўніцтву абедзвюх дзяржаў.

**— Пакуль, відаць, наўрад ці варта падрабязна гаварыць аб усіх нюансах рыхтуемых дакументаў, аднак якія іх "краевугольны камень"?**

— Галоўнае ў іх (пра гэта можна сказаць дакладна) — мы не пераступім тую мяжу, за якой Беларусь чакае страта суверэнітэту. Ні ў кога не павінна быць сумненняў — наша дзяржава застанецца суверэннай, незалежнай. Несумненная выгада ад аб'яднання будзе і для нас, і для расіян...

**— І ўсё ж, Міхаіл Юр'евіч, якія прынцыпы, якая мяркуемая форма стварэння адзінай саюзнай дзяржавы?**

— Калі захоўваецца суверэнітэт, то, згадзіцеся, можна гаварыць аб канфедэрацыі. Аднак нельга сёння, што называецца, зацыклівацца на нібыта даўно існуючай тэрміналогіі.

Скажыце, што сёння ўяўляе сабой Еўрасаюз, краіны якога ўсё больш цесна змыкаюцца? Сучаснае жыццё нельга ўкласці ў рамкі класічных фармулёвак падручнікаў па міжнароднаму праву.

**— Інакш кажучы, паміж канфедэрацыяй і федэрацыяй існуе нейкая залатая сярэдзіна?**

— Так. Да таго ж ступень інтэграцыі ў розных галінах супрацоўніцтва можа быць рознай. Напрыклад, у Еўрапейскім супольніцтве нехта ўжо перайшоў на адзіную валюту — еўра, а нехта (Англія, у прыватнасці) чакае. У любым выпадку, падкрэслю, падыход не павінен быць дагматычным.

**— Ці плануецца правядзенне рэферэндумаў наконт утварэння адзінай саюзнай дзяржавы?**

— Справа тут у наступным. Мы працуем на базе Дэкларацыі аб далейшым яднанні Беларусі і Расіі.

Што ж тычыцца непасрэднага рэферэндуму, ён тэарэтычна можа спатрэбіцца для абедзвюх дзяржаў, калі давядзецца, напрыклад, уносіць сур'ёзныя змены ў Канстытуцыі. Пакуль гэта не прадугледжваецца...

**— У Расіі, як гаворыцца, на носе выбарныя кампаніі ў Дзярждуму, затым — прэзідэнта. Ці не паўплываюць яны негатыўным чынам на далейшае яднанне дзвюх краін?**

— Відаць, узгадняючы тэрміны, прэзідэнты Беларусі і Расіі ўлічвалі, што варта спланаваць і падрыхтаваць дакументы да восені гэтага года. Выбарная палітычная кампанія, сапраўды, наўрад ці станоўча адаб'ецца на справе аб'яднання Беларусі і Расіі ў саюзную дзяржаву...

*«СОВЕТСКАЯ БЕЛОРУССИЯ»*

## СЛОВА Ў КАНТЭКСЦЕ СПРАЎ

Сітуацыя ў эканоміцы па-ранейшаму супярэчлівая. З аднаго боку, выяўляецца станоўчы патэнцыял прыросту вытворчасці прадукцыі, дасягнуты ў апошнія гады. З другога — у Беларусі разгулялася інфляцыя, не выконваюцца заданні па будаўніцтву жылля і вытворчасці сельгаспрадукцыі, расце дэфіцыт знешняга гандлю. Што ў такіх умовах неабходна зрабіць, каб не застапарылася развіццё эканомікі? Пра гэта ішла размова на пашыраным пасяджэнні Савета Міністраў краіны.

У фокусе інфляцыі, як у кроплі вады, адлюстроўваюцца многія беды айчыннай эканомікі. Рост цэн у мінулым годзе склаў 9 працэнтаў у месяц супраць запланаваных двух. Асабліва абвальнымі былі апошнія 4 месяцы, калі інфляцыя дасягнула 20—25 працэнтаў. Толькі нязначна знізілася яна і ў гэтым годзе. Крызіс у Расіі, безумоўна, паўплываў на гэты ўсплеск, аднак не толькі ён. У чым прычына?

На нарадзе выказалі сваё меркаванне наконт гэтага міністры эканомікі, фінансаў, кіраўнік Нацыянальнага банка, прэм'ер-міністр, нарэшце. З іх слоў ясна, што, на жаль, эканамічная стратэгія летась была выверана не заўсёды дакладна. У той час як спробы стрымаць цэны любым спосабам часам пазбаўлялі стымулаў вытворчасць, сама яна падпітвалася празмернымі грашовымі эмісіямі. Так што на кожны працэнт прыросту валавога ўнутранага прадукту прыпала 2 працэнты інфляцыі. Што, думаецца, часткова і дазваляла кіраўнікам не вельмі клапаціцца пра цэнаўтварэнне, дапускаючы штучнае завышэнне кошту.

Балючая да гэтага часу праблема — сапраўднасць валютнага курсу нацыянальнай грашовай адзінкі. Мала таго, што часткова з-за мноства яго значэнняў зніжаецца знешнегандлёвы абарот, амаль да паўтара мільярда долараў узрасло яго адмоўнае сальда, змяншаецца паступленне "жывой" валюты на рахункі прадпрыемстваў. Затое расце праслаўуты бартэр, з якога, як вядома, падаткі ў казну не збярэш. Больш таго, многія дырэктары прадпрыемстваў не супраць прыхапіць валютны замежны крэдыт, але не спяшаюцца яго вяртаць. З нядаўняга мінулага вядома, што пагашаць такія пазыкі часта даводзілася дзяржаве. Ці будзе так і надалей? Кіраўнік фінансавага ведамства запэўніў, што больш магчымы іншы варыянт, калі за даўгі суб'ектам гаспадарання давядзецца разлічвацца сваёй маёмасцю.

Як растлумачыў кіраўнік Нацыянальнага банка Пётр Пракаповіч, перадумовы для пераходу да адзінага курсаўтварэння паспелі яшчэ летась, ды расійскі крызіс перашкодзіў. Цяпер выбух каціровак паміж рознымі курсамі беларускага рубля складае 20—25 працэнтаў. Праўда, ліквідаваць яго можна, толькі нарасціўшы вытворчы патэнцыял рэальнага сектара эканомікі. Сітуацыя тут пакуль вострая. Патрэбны тэрміновыя меры, каб узняць экспарт, прыцягнуць замежныя капіталаўкладанні.

Адпаведная дзяржаўная падтрымка прадпрыемствам, безумоўна, будзе аказана. Аднак не ўсім без разбору, як не раз раней здаралася, асабліва ў сельскай гаспадарцы. У выніку ў многіх кіраўнікоў і калектываў папросту атрафіравалася пачуццё адказнасці. Як інакш ацаніць такія факты, прыведзеныя прэм'ер-міністрам Сяргеем Лінгам: у 480 гаспадарках ураджайнасць бульбы не перавышае 50 цэнтнераў з гектара, а ў 220 — удой малака на карову складае 1 600 літраў у год. Ці не таму краіна да сёння не можа забяспечыць сябе збожжам, цукрам, алеем? Аналагічная сітуацыя і ў многіх будаўнічых арганізацыях.

Кіраўнік урада Сяргей Лінг заклікаў выдаліць з эканомікі яе збанкрутаваныя элементы. Што ж, як гаворыцца, даўно настаў час.

## НЕАФІЦЫЙНЫЯ СМІ

*«БЕЛОРУССКАЯ ГАЗЕТА»*

## У АПАЗІЦЫІ — УЯЎНАЯ ЦЯЖАРНАСЦЬ?

Вядома, што раджаць цяжка...

Нядаўна апазіцыя адзначала з'яўленне на свет чарговага дзіцяці — Рады дэмакратычных сіл. У ролі шчаслівага бацькі зноў фігуруе нацыянальны аб'яднаны лідэр Генадзь Карпенка. Актыўны ён усё ж чалавек, вельмі актыўны. Ваш карэспандэнт, напрыклад, ужо збілася з ліку задуманых Генадзем Дзмітрыевічам органаў апазіцыі рознай ступені аб'яднанасці. Каэфіцыент карыснага дзеяння гэтых органаў невялікі — і кожнага паасобку, і ўсіх разам узятых. Рэзалюцыі Кангрэса дэмакратычных сіл, які праходзіў нядаўна, спяваюць старыя песні аб галоўным — дрэнным дзядзьку і яго бяздарнай палітыцы ва ўсіх сферах, пачынаючы ад эканомікі і канчаючы роднай мовай. Думка гэтая відавочная ўжо не першы год. Аднак канкрэтныя дзеянні па выпраўленню сітуацыі туманныя.

Тым не менш, нягледзячы на традыцыйныя для беларускай апазіцыі вячоркі і хрэсьбіны, ва ўладных структурах назіраецца пэўная занепакоенасць. Рашэнні Вярхоўнага Савета 13-га склікання*, стварэнне Цэнтрвыбаркома пад кіраўніцтвам Віктара Ганчара і заява экс-прэм'ера Міхаіла Чыгіра аб жаданні вылучыць сваю кандыдатуру на прэзідэнцкіх выбарах сталі, мяркуючы па кулуарных размовах, прычынамі роздуму многіх чыноўнікаў.

І гэтую занепакоенасць можна разглядаць як пэўныя поспехі з боку Вярхоўнага Савета, В. Ганчара і М. Чыгіра. Да таго ж, апазіцыі, здаецца, удалося атрымаць фінансавую падтрымку — не так важна, з Усходу ці з Захаду, але любое фінансаванне мае на ўвазе аргументацыю рацыянальнага выкарыстання сродкаў, і, мяркуючы па ўсім, гэтыя аргументы былі прызнаны важкімі.

Даныя дзеянні ўпершыню пасля рэферэндуму 96-га года справакавалі ўладныя структуры на прыняцце комплексу сілавых рашэнняў. Як стала вядома, беларускія спецслужбы ўзмацнілі назіранне за работай апазіцыйных палітыкаў. Пракуратура РБ ужо вынесла афіцыйнае папярэджанне В. Ганчару, пасля чаго ён быў арыштаваны, мяркуюцца аналагічныя дзеянні ў адносінах да членаў акруговых камісій і ініцыятыўных груп, што займаюцца зборам подпісаў. Органам фінансавых расследаванняў даручана заняцца праверкай спосабаў апазіцыйнага заробку на жыццё. Найбольш слабым у гэтым плане можа стаць экс-прэм'ер М. Чыгір, банкаўская дзейнасць якога неаднойчы правяралася пасля адстаўкі.

"Мы зробім роўна столькі крокаў, колькі нам дазволіць зрабіць улада", — адзначыў у гутарцы з карэспандэнтам "БГ" намеснік старшыні Аб'яднанай грамадзянскай партыі Анатоль Лябедзька. АГП у дачыненні прэзідэнцкіх выбараў заявіла толькі агульныя фразы адносна падтрымкі кандыдатаў ад дэмакратычных сіл. І гэта рашэнне зразумелае: у партыі ёсць свой лідэр, у лідэра ёсць самалюбства, у кіраўніцтва партыі — спачуванне. Беларускі народны фронт душой нібыта таксама за адзіныя дзеянні, але данае рашэнне пакуль не агучана. І гэта зразумела: у БНФ таксама ёсць свой лідэр. За акіянам, але ёсць. Не хацелася б паглыбляцца ў канкрэтызацыю палітычных персаналій, але вельмі многія палітыкі па-ранейшаму нечага чакаюць — рашэння партыі, праграмы Чыгіра, а можа проста добрага надвор'я.

Няўжо зноў — уяўная цяжарнасць?

* 11 студзеня 1999 года дэпутаты ВС 13-га склікання назначылі дату чарговых прэзідэнцкіх выбараў на 16 мая 1999 года, што супярэчыць дзеючай Канстытуцыі.

## ВЕРСІІ — ЦІ ГАТОВА БЕЛАРУСКАЯ АПАЗІЦЫЯ ДА АБ'ЯДНАННЯ?

***Генадзь Карпенка, старшыня Нацыянальнага выканаўчага камітэта:***

— Я мяркую, што рашэнне аб нейкіх адзіных дзеяннях альбо аб іх адсутнасці павінна прымацца самастойна кожнай партыяй. Так, органаў аб'яднанай апазіцыі сапраўды некалькі. Ну і што? Многа дзеючых органаў — гэта ж добра.

***Пётр Жушма, намеснік старшыні камісіі па міжнародных справах і сувязях з СНД Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага Сходу:***

— Мне смешна чуць выказванні тыпу "беларуская апазіцыя аб'ядналася" ці "беларускай апазіцыі трэба аб'яднацца". Для таго каб такое аб'яднанне адбылося, трэба ведаць дакладныя адказы на пытанні аб тым, навошта аб'ядноўвацца, дзеля чаго і з кім. У асяроддзі беларускай апазіцыі вельмі многа тых, хто жадае прыйсці да ўлады, там вельмі многа асабістых амбіцый. Мінімум дзесяць чалавек хочуць бачыць сябе лідэрамі.

***Станіслаў Багданкевіч, старшыня Аб'яднанай грамадзянскай партыі:***

— Пазіцыя нашай партыі заключаецца ў тым, што, калі ў выбарах, арганізаваных Цэнтрвыбаркомам згодна з рашэннем ВС 13-га склікання, будуць удзельнічаць кандыдаты ад партыі ўлады, неабходна выставіць адзінага кандыдата ад дэмакратычных сіл. Пры развіцці такога сцэнарыя АГП прыкладзе ўсе намаганні, каб з'явілася ўзгодненая кандыдатура ад дэмакратычных сіл. Зрэшты, хутчэй за ўсё, кандыдаты ад партыі ўлады не будуць вылучаць свае кандыдатуры на прэзідэнцкіх выбарах, і ў даным выпадку мы не будзем імкнуцца да з'яўлення адзінага дэмакратычнага кандыдата.

***Станіслаў Шушкевіч, старшыня Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады:***

— Адзінства ў асяроддзі апазіцыйных пазёраў няма і не можа быць. А сярод сапраўднай апазіцыі — поўнае адзінства. Шматлікія тусоўкі і органы аб'яднанай апазіцыі — гэта вынік дзейнасці суб'ектаў, якія хочуць паказаць сябе галоўнымі, — такіх, як Карпенка і некаторыя іншыя. У пазёраў і генералаў без армій за спіной няма нічога, акрамя асабістых амбіцый, і яны робяць выгляд, што нешта ўзначальваюць, нечым кіруюць, нешта каардынуюць.

***Юрый Хадыка, намеснік старшыні БНФ:***

— Навошта ператвараць дэмакратычныя выбары ў пародыю? Я перакананы: на прэзідэнцкіх выбарах павінна быць некалькі кандыдатаў ад дэмакратычных сіл. Ад БНФ, відаць, будзе вылучана кандыдатура Зянона Пазняка — мы абмяркоўваем гэтае пытанне, і адпаведнае рашэнне ў бліжэйшы час, хутчэй за ўсё, будзе прынята.

ПРЭС-КАНФЕРЭНЦЫЯ

## ЭКАНОМІКА БЕЛАРУСІ Ў МНОГІХ АСПЕКТАХ — КАМАНДНАЯ

**Эканоміка Беларусі ў многіх аспектах — камандная. Такое меркаванне выказаў вядучы эканаміст Сусветнага Банка, доктар эканомікі Джон Хансен на прэс-канферэнцыі, прысвечанай міжнароднай канферэнцыі "Эканоміка Беларусі: вектары развіцця і фактары ўстойлівага росту", якая прайшла ў Мінску.**

Доктар Хансен адзначыў, што вынікам кантролю цэн на валюту і тавары з'яўляецца зніжэнне рэнтабельнасці вытворчасцей, адсутнасць сродкаў для інвестыцый і развіцця, што непазбежна прывядзе да спаду вытворчасці. "Вынікі стрымлівання цэн надзвычай негатыўныя — гэта дэфіцыт тавараў у магазінах, што мы ўжо бачым у Беларусі, і вываз іх на іншыя рынкі", лічыць Д. Хансен. На яго думку, стабільныя цэны павінны быць вынікам правільнай эканамічнай палітыкі — бюджэтнай і грашова-крэдытнай.

"Беларусь усё больш рухаецца да сілавога кантролю, нібыта да рынку", — адзначыў доктар эканомікі, прафесар, прадстаўнік Лонданскай школы бізнесу Марыо Нуці. У краіне нарастае дэфіцыт тавараў, цэны на якія рэгулююцца, пры гэтым ствараюцца цяжкасці для прадпрыемстваў з цэнавым рэгуляваннем. Беларусь з'яўляецца каманднай эканомікай, але без цэнтральнага планавання, лічыць М. Нуці. Па яго словах, фінансавая абгрунтаванасць усіх планаў, якія рыхтуе беларускі ўрад, адсутнічае, таму расце інфляцыя і ствараецца макраэканамічнае асяроддзе, якое не садзейнічае развіццю рыначнай эканомікі. У Беларусі неабходна палепшыць умовы для стварэння новых прадпрыемстваў, стварыць механізм закрыцця нежыццяздольных прадпрыемстваў, развіваць прыватны сектар. Макраэканамічнае асяроддзе таксама павінна быць сумяшчальным з рыначнымі механізмамі. Для Беларусі шлях наперад павінен быць накіраваны на завяршэнне пабудовы рыначнай эканомікі. Калі эканоміка будзе рыначнай, тады яна можа стаць сацыяльна-арыентаванай, мяркуе М. Нуці.

Інтэрфакс.

СПАДЧЫНА



Ліза ГЛАЗ — дачка свяшчэнніка з Глуска.
*Фота Мікалая ЦІТОВА, БелТА.*

# УРАЧ ДАНІЛА СПАСОВІЧ

**Клара БІРУКОВІЧ,**
*супрацоўнік Гомельскай абласной бібліятэкі.*

**На міжнароднай навуковай канферэнцыі, прысвечанай 130-годдзю з дня нараджэння выдатнага вучонага-гісторыка і грамадскага дзеяча, ураджэнца Рэчыцы М. Доўнар-Запольскага, адзін з удзельнікаў, вядучы навуковы супрацоўнік Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі Д. Яцкевіч у сваім паведамленні прывёў цікавыя звесткі пра радаслоўную знакамітага вучонага. Аказваецца, у хрысцінах бацькі М. Доўнар-Запольскага Віктара Мартынавіча, які нарадзіўся ў 1827 годзе ў Рэчыцы, прымаў удзел галоўны урач павета Даніла Спасовіч.**

**Нам здаецца, што трэба звярнуць увагу на гэта імя не толькі ў сувязі з тым, што гэта бацька знакамітага рускага адваката, публіцыста і літаратуразнаўцы Уладзіміра Спасовіча, які нарадзіўся ў Рэчыцы ў 1829 годзе.**

Гісторыя распарадзілася так, што імя Уладзіміра Спасовіча можна сустрэць у кожным энцыклапедычным даведніку, нават у мемуарах вядомага рускага адваката А. Коні. На вялікі жаль, гэтага нельга сказаць пра яго бацьку, імя якога да гэтага часу знаходзіцца ў забыцці.

У выніку працяглых краязнаўчых пошукаў нам пашчасціла ўстанавіць некалькі цікавых эпізодаў з жыцця і ўрачэбнай практыкі Данілы Спасовіча. Не ўдалося толькі ўдакладніць месца яго нараджэння.

Медыцынскую адукацыю Даніла Спасовіч набыў на медыцынскім факультэце Віленскага універсітэта. У час вучобы ў Вільні ён быў членам тайнай студэнцкай суполкі філаматаў. У 1819 годзе Д. Спасовіч скончыў універсітэт і паехаў на працу ў Рэчыцу, дзе практыкаваў на медыцынскіх пасадах звыш 10 гадоў. Затым яго перавялі ў Мінск.

У 60-я гады XIX стагоддзя ў губернскіх гарадах ствараюцца навуковыя ўрачэбныя таварыствы. Урачы прымаюць удзел у рабоце агульнарасійскіх з'ездаў, наладжваюць навуковыя сувязі з іншымі медыцынскімі таварыствамі, навуковымі ўстановамі і вядомымі дзеячамі медыцыны Расіі. Пачынаюць працу першыя губернскія з'езды медыкаў.

Урачы Мінска ў 1862 годзе таксама прынялі рашэнне аб стварэнні ўрачэбнага таварыства і пад старшынствам інспектара ўрачэбнай управы правялі два пасяджэнні. Аднак у далейшым дзейнасць таварыства была перапынена падзеямі 1863 года. Фактычна таварыства перастала існаваць.

Д. Спасовіч займаецца таксама навуковай дзейнасцю. У 1851 годзе ўбачыла свет яго навуковая праца "Злаякаснае запаленне селязёнкі і сібірская язва".

Станоўчую ацэнку ўрачэбнай дзейнасці Д. Спасовіча і яго чалавечых якасцей даў вядомы даследчык гісторыі Беларусі, яе побыту і культуры П. Шпілеўскі ў сваёй кнізе "Падарожжа па Палессі і беларускім краі". Наведаўшы мінскі шпіталь, дзе працаваў Д. Спасовіч, Шпілеўскі напісаў наступнае: "Троіцкі шпіталь утрымліваецца ў надзвычайнай чысціні і мае ўсе магчымыя зручнасці для хворых, чым абавязаны слаўтуму доктару, інспектару мінскай урачэбнай управы Д. Спасовічу, які карыстаецца павагай і любоўю ўсяго мінскага краю. Хто памятае трыццатыя і саракавыя гады бягучага стагоддзя, хто сачыў за дабрачыннымі дзеяннямі і распараджэннямі мінскай урачэбнай управы ў часы халеры і іншых эпідэмічных хвароб, той ведае, чым абавязаны жыхары Мінска і ўсёй губерні Мінскай гэтаму рэдкаму чалавеку, сапраўднаму сябру хворага чалавецтва і бескарысліваму памочніку бедных людзей".

# ЭСТАФЕТУ СВЯТА АДАМ МІЦКЕВІЧ ПЕРАДАЕ

***1999 год аб'яўлены ў Беларусі Годам А. С. Пушкіна. Створаны нацыянальны аргкамітэт па падрыхтоўцы і ажыццяўленню мерапрыемстваў, звязаных з правядзеннем юбілею***

Беларусь і Пушкін... Лёс паэта звязаны з нашай краінай. Па беларускай зямлі праходзіў яго шлях у часы выгнання. У архівах і музеях Віцебскай і Магілёўскай абласцей захаваліся дакументальныя сведчанні, успаміны пра гэтую вымушаную вандроўку паэта. З Беларуссю звязалі свой жыццёвы лёс і некаторыя нашчадкі А. Пушкіна. Напрыклад, Наталля Варанцова-Вельямінава — адна з 19 унукаў і ўнучак Пушкіна — большую частку свайго жыцця правяла ў Бабруйскім раёне, дзе знаходзіўся маёнтак яе свекрыві. Наталля Аляксандраўна атрымала выдатную дамашнюю адукацыю, вучылася ў Віленскай гімназіі. Яна была высокаадукаваным чалавекам, цудоўна валодала французскай і нямецкай мовамі, малявала, пісала вершы, добра ведала музыку і літаратуру, падтрымлівала сяброўскія адносіны з І. Тургеневым, Ф. Дастаеўскім, А. Луначарскім.

Н. Варанцова-Вельямінава памерла ў 1912 годзе ва ўзросце 53 гадоў. Яна пахавана ў цэнтры в. Цялуша Бабруйскага раёна побач з царквой. У Наталлі Аляксандраўны было пяцёра дзяцей, якія захавалі лепшыя чалавечыя якасці сваіх бацькоў. А ўсяго на беларускай зямлі жылі тры пакаленні нашчадкаў вялікага рускага паэта...

Сёлета ў Беларусі будуць праходзіць самыя розныя культурныя, мастацкія, літаратурныя і навуковыя мерапрыемствы і імпрэзы, прысвечаныя 200-годдзю з дня нараджэння вялікага рускага паэта А. Пушкіна.

Народным мастаком СССР Міхаілам Савіцкім нядаўна створаны цудоўныя партрэты "Н. М. Ганчарова і А. С. Пушкін", "А. С. Пушкін і Адам Міцкевіч". А кампазітар Эдуард Наско напісаў варыяцыі для каларатурнага сапрана на вершы А. Пушкіна. Дзяржаўны акадэмічны сімфанічны аркестр пад кіраўніцтвам народнага артыста Расіі Генадзія Праватарава рыхтуе цыкл канцэртаў, прысвечаных юбілею паэта. У выкананні аркестра, выдатнейшых беларускіх і расійскіх музыкантаў і майстроў вакалу будуць гучаць творы сусветна вядомых і маладых кампазітараў. На сцэне Беларускай дзяржаўнай філармоніі плануецца паставіць оперу "Скупы рыцар" А. Рахманінава, якая рэдка выконваецца.

Новымі фарбамі для глядацкага ўспрымання будуць адметныя спектаклі "Яўгеній Анегін" і "Пікавая дама" П. Чайкоўскага ў творчым аб'яднанні "Нацыянальны акадэмічны Вялікі тэатр оперы і балета". У планах гэтага тэатра і пастаноўка спектакля "Барыс Гадуноў" М. Мусаргскага. Мазырскі драматычны тэатр імя І. Мележа ўжо пачаў работу над спектаклем "Залаты пеўнік". Бабруйскі тэатр драмы і камедыі імя В. Дуніна-Марцінкевіча працуе над "Казкай аб папе і яго работніку Балдзе". У планах Дзяржаўнага акадэмічнага рускага драматычнага тэатра імя М. Горкага — пастаноўка спектакля пад рабочай назвай "Барыс і Дзмітрый". У аснове яго — творы аб вялікіх самазванцах "Барыс Гадуноў" А. Пушкіна і "Дзмітрый" Ф. Шылера. А самыя лепшыя творчыя дасягненні беларускіх артыстаў, музыкантаў, мастакоў будуць прадэманстраваны на рэспубліканскім Пушкінскім фестывалі мастацтваў, запланаваным на май 1999 года.

Вельмі важна ўжо зараз скаардынаваць сумесныя намаганні беларускіх і адпаведных расійскіх партнёраў у наладжванні навуковых кантактаў і культурнага супрацоўніц-

# ПОШТА НА ПІНШЧЫНЕ

**Леў КОЛАСАЎ.**

**У канцы 80-х — пачатку 90-х гадоў XVIII стагоддзя жыхары Пінскага павета зведвалі нязручнасці з адпраўленнем пошты нават у бліжэйшыя гарады і мястэчкі, не гаворачы ўжо аб далёкіх паселішчах. Тлумачылася гэта перш за ўсё прыроднымі ўмовамі краю: лясістасць, шматлікія рэкі, вялікая забалочанасць. Усё гэта не садзейнічала будаўніцтву паштовых шляхоў. Напрыклад, каб адправіць пісьмо з Пінска ў Столін, адлегласць да якога складала ўсяго 15 міль, трэба было пасылаць пісьмо праз паштовую станцыю ў Гродне, а гэта больш 60 міль толькі ў адзін бок. Паведамленне ішло доўга, кружным шляхам, страчвала сваю актуальнасць. Іншыя ж паштовыя станцыі былі яшчэ далей. Таму жыхары павета ў канцы XVIII стагоддзя звярнуліся з просьбай у мясцовы сеймік аб удасканаленні паштовай службы на Піншчыне.**

Пакуль не ўдалося знайсці якія-небудзь даныя, калі ў Пінску была адкрыта паштовая станцыя. Мабыць, у пачатку XVIII стагоддзя або і раней. Вядома, што ў 1734 годзе дваране Брэсцкага ваяводства на рэгіянальным сейміку вынеслі пастанову аб пошце: "...деятельность почты воеводства нашего чтобы не прекращалась, силой принятых ранее уставов, чтобы отчисления на содержание почты с налога чопового шеленжневого (падатак з продажу алкагольных напіткаў) от налогоплательщиков ежегодно доходили, об обязанности этой напоминаем".

У рэестры вопісу маёмасці пінскай паштовай станцыі, складзеным у канцы 60-х гадоў XIX стагоддзя, было 5 экіпажаў.

Архіўныя дакументы гавораць, што паштовая станцыя ў Пінску была пераўтворана ў пінскую паштовую кантору (павятовую) 1 студзеня 1830 года. А больш чым праз паўстагоддзя, пасля ўвядзення ў строй пінскага тэлеграфа, 1 студзеня 1887 года, адкрылася паштова-тэлеграфная кантора. У склад Пінскай паштова-тэлеграфнай канторы ўваходзілі паштова-тэлеграфныя аддзяленні — Лагішынскае, Столінскае, Целяханскае, Парэцкае, паштовыя аддзяленні — Марачанскае, Плотніцкае, Пагост-Загародскае і Юхновіцкае. Прыём простых і заказных пісьмаў праводзіўся ў Церабяжоўскім і Хатыніцкім валасных праўленнях.

У другой палове XIX стагоддзя адкрылася на Піншчыне паштовы тракт № 4 Пінск — Целяханы па грунтавой дарозе. Тракт праходзіў праз паштовую станцыю ў Лагішыне, абслугоўваўся 14 конямі. Шэсць з іх належалі пінскай станцыі, па чатыры — целяханскай і лагішынскай. За правоз паштовай карэспандэнцыі (аднаго пісьма) і эстафеты (тэрміновага пісьма) бралася прагонная плата ў памеры 3 капеек. Праезд аднаго пасажыра ў паштовым экіпажы каштаваў столькі ж. У залежнасці ад стану паштовай дарогі плата за праезд пасажыра іншы раз дасягала 5 капеек. Адлегласць паміж паштовымі станцыямі вылічвалася ў вёрстах і складала: Пінск — Лагішын — 28 вёрст, Лагішын — Целяханы — 24 вярсты.

Да 1901 года ў Пінску працавала ўсяго адно паштовае аддзяленне, якое знаходзілася ў цэнтральнай частцы горада далёка ад вакзала. Да таго часу вакол вакзала і чыгуначных майстэрань вырас густанаселены раён. Аддаленасць пошты ад гэтага раёна стварала вялікія нязручнасці жыхарам. Таму ў лютым 1901 года было пададзена прашэнне ў Мінскую паштовую акругу аб адкрыцці другога паштовага аддзялення на вакзале станцыі Пінск Палескіх чыгунак. Прашэнне пінчан праляжала ў Галоўным упраўленні пошт і тэлеграфаў чатыры з паловай гады без усялякага руху. У жніўні 1905 года быў атрыманы адказ, у якім паведамлялася, што "хадайніцтва аб адкрыцці паштовага аддзялення на станцыі Пінск Палескіх чыгунак з-за недахопу сродкаў не можа быць задаволена".

У верасні 1914 года жыхары прывакзальнага раёна Пінска зноў паслалі прашэнне. І толькі з-за ваенных дзеянняў, канцэнтрацыі ў Пінску войск з уласнымі палявымі поштамі, шпіталяў, бежанцаў і г. д. паштовае аддзяленне на вакзале было адкрыта. На працягу ўсяго гэтага часу — з 1901 па 1915 год пошту ў Пінску вазіў ад паштовай канторы да вакзала адзін чалавек — Лейзер Дзятлавіцкі. Ён займаўся таксама выманнем карэспандэнцыі з паштовых скрынь, якіх у той час у Пінску было некалькі. Пінская пошта штогод заключала з Л. Дзятлавіцкім дагавор аб дастаўцы пошты, выплачваючы яму пэўную суму. Раз на тыдзень Л. Дзятлавіцкі вазіў пошту па маршруту Пінск — Гарадзішча — Парахонск. Туды ж у той жа дзень тыдня прывозіў пошту з Лунінца для абмену возчык Мойша Дзятлавіцкі, брат пінчаніна.

Ці былі на пінскай паштовай станцыі штэмпелі для клеймавання пісем, устанавіць пакуль не ўдалося. Не знойдзены пісь-





# ВЫСОКАЙ ПАЭЗІІ АЛЯКСАНДРУ ПУШКІНУ

***паэта, распрацаваны план святкавання 200-годдзя А. Пушкіна ў Беларусі. Пра гэта расказвае намеснік міністра культуры Рэспублікі Беларусь Валерый ГЕДРОЙЦ.***

тва пры падрыхтоўцы юбілейных мерапрыемстваў. Таму аб'яднаннем дзяржаўных літаратурных музеяў Рэспублікі Беларусь і Дзяржаўным музеем А. С. Пушкіна ў Маскве заключана пагадненне аб творчым супрацоўніцтве пры падрыхтоўцы да 200-годдзя паэта. Гэтымі музейнымі ўстановамі плануецца ажыццявіць праект "Пушкінская восень у Беларусі", дзе прадугледжана выстава "Сябры, вам сэрца пакідаю..." (сумесна з Нацыянальнай бібліятэкай Беларусі і Беларускім фондам культуры), навуковая канферэнцыя, прэзентацыі найбольш значных юбілейных беларускіх і рускіх выданняў кніг і альбомаў, вернісаж мастакоў і навучэнцаў мастацкіх навучальных устаноў, конкурс сачыненняў вучняў сярэдніх школ, музычна-паэтычныя вечары і г. д.

Зацікаўлены ў супрацоўніцтве грамадскія і прыватныя арганізацыі. Яны рыхтуюць свае праекты, якія творча ўзбагацяць пушкінскі год.

Памяць аб А. Пушкіне ўвекавечана на Беларусі ў помніках. Яго імя носяць многія вуліцы беларускіх гарадоў, прадпрыемствы, калгасы і саўгасы, установы культуры. У дні юбілею яны павінны стаць цэнтрамі ўрачыстасцей і святаў пушкінскай паэзіі. Сярод такіх устаноў выключнае месца належыць Мінскай абласной бібліятэцы імя А. С. Пушкіна — адной з найстарэйшых публічных бібліятэк рэспублікі. Вядома, што яна адкрывалася да 100-годдзя паэта, мела і зараз мае вялікі аўтарытэт у творчай інтэлігенцыі, студэнтаў, моладзі, грамадскасці.

Дарэчы, юбілейнае падарункавае выданне рамана "Яўгеній Анегін" будзе выдавацца Беларускім фондам культуры на рускай і беларускай мовах у перакладзе Аркадзя Куляшова. Гэта выданне павінна стаць ужо само па сабе выдатнай падзеяй у культурным жыцці Беларусі і Расіі. Бо сёлета адзначаецца 85-годдзе народнага паэта Беларусі Аркадзя Куляшова, 60-годдзе першай публікацыі перакладу частак рамана і 50-годдзе яго поўнага выдання. А стваральніку ілюстрацый, выдатнаму беларускаму графіку, народнаму мастаку Беларусі Арлену Кашкурэвічу споўніцца 70 гадоў. І гэта яшчэ не ўсё. Ініцыятары выдання разлічваюць, што першымі атрымаюць такі цудоўны падарунак са спецыяльным прысвячэннем у год А. Пушкіна ўсе лепшыя беларускія вучні-выдатнікі, якія заканчаць сярэднюю школу з медалямі.

Сярод галоўных мерапрыемстваў юбілею А. Пушкіна стануць расійскія Пушкінскія дні сёлета ў чэрвені. Яны прадугледжаны ў рамках беларуска-расійскага культурнага супрацоўніцтва Выканкомам Саюза Беларусі і Расійскай Федэрацыі. У гэты ж час адбудзецца Рэспубліканскае свята пушкінскай паэзіі, якое плануецца правесці ў Мінску. Напярэдадні Дня славянскага пісьменства і культуры пройдзе Тыдзень пушкінскай кнігі.

...Так гістарычна склалася, што мінулы год стаў юбілейным для славутага беларускага генія, польскамоўнага паэта Адама Міцкевіча. Па рашэнні ЮНЕСКА яго 200-годдзе шырока адзначалася ва ўсім свеце, на радзіме паэта. Зараз Адам Міцкевіч перадае своеасаблівую творчую эстафету свята высокай паэзіі на нашай зямлі — Году А. С. Пушкіна. Сваёй узвышанай паэзіяй, сусветнай вядомасцю, шчырымі сяброўскімі адносінамі і нават юбілеямі вялікія сыны беларускага і рускага народаў аб'ядноўваюць нас духоўна.

мы таго часу. Філатэлістам вядома, што ў 1844 годзе пінская паштовая кантора прымяняла аднарадковы штэмпель клеймавання толькі з назвай горада — "ПИНСКЪ". Дата адпраўкі пісьма прастаўлялася работнікам канторы ад рукі. Такі штэмпель прысутнічае на пісьме, адпраўленым 13 чэрвеня 1844 года з Пінскага земскага суда ў Рэчыцкі. Тут жа дата адпраўлення пісьма і яго нумар "чэрвеня 13 1844 г. № 1". Пісьмо казённае, таму было запячатана сургучнай пячаткай Пінскага земскага суда. На сургучным адбітку праглядваюцца літары "С. З." (суд земскі) і герб Пінска — лук з нацягнутай цецівой і стралой.

Ужо ў 1845 годзе ў штэмпелі пінскай канторы з'явілася дата, якая ўказвала дзень адпраўкі пісьма. Штэмпель стаў двухрадковым — "ПИНСКЪ / июня 5 1845". Вядомы яшчэ адзін штэмпель сярэдзіны XIX стагоддзя. Гэта двухрадковы штэмпель з тэкстам: "ПИНСКЪ отпра / вleно / (2 ноября 1855)". У гэтым штэмпелі дата ўпісвалася ад рукі. У канцы XIX стагоддзя пінская пошта карысталася круглым штэмпелем з надпісам "Пинскъ Почт. контора 1 Минск. г." У XX стагоддзі штэмпелі змяніліся.




# «ЗАЛАТЫЯ СТРЭЛЫ НА БЛАКІТНЫМ ПОЛІ»

**Кастусь СВІРСКІ.**

**У свой час асаблівай папулярнасцю, трывалым попытам у рэгіянальнага чытача карысталіся кнігі, прысвечаныя гарадам Беларусі. Выходзілі яны ў выдавецтвах "Беларусь" і "Полымя".**

**Але з часам утварыўся пэўны вакуум. Выдавецтва "Полымя" занялося іншымі, болей цікавымі праектамі. У тым ліку — і вяртаннем да шырокага ўжытку кніг-даследаванняў мінулага стагоддзя. Падобная выдавецкая практыка зразумелая, апраўданая з улікам росту чытацкіх зацікаўленняў, чытацкай дасведчанасці.**

**Але ўявіце сабе, што на месцы, у тым альбо іншым раёне, дзе ідзе краязнаўчая работа, дзе працуюць апантаныя, руплівыя краязнаўцы, плёну, каб дайсці да радавога чытача, няма. Настаўнікі расказваюць пра славу свайго Чэрвеня (Ігумена па-ранейшаму), а кніжку параіць прачытаць не могуць. Вельмі багаты гістарычны лёс у Мар'інай Горкі, а жыхары яе і ваколіц не маюць гарадской альбо раённай энцыклапедыі.**

Оршы, якая ў 1997 годзе ўжо адзначыла свой 930-гадовы юбілей, пашчасціла. У выдавецтве "Полымя" выйшла кніга Святаслава Асіноўскага "Орша: Залатыя стрэлы на блакітным полі". Жанр яе вызначаны наступным чынам: ілюстраваны храналагічны даведнік. У выдавецкай анатацыі слушна заўважаецца: "Кніга з'яўляецца першым на Беларусі багата ілюстраваным храналагічным даведнікам, прысвечаным асобнаму гораду..." І далей: "Яскрава паказана месца і значэнне Оршы і звязаных з ёю падзей у агульнай еўрапейскай гісторыі".

Аўтар, пачынаючы з XI тысячагоддзя да нашай эры, рэканструюе аршанскую даўніну, укладвае яе ў кантэкст тых падзей, што адбываліся на тэрыторыі сучаснай Беларусі. Расказваючы пра стаянкі старажытных людзей, Святаслаў Асіноўскі не забываецца падаць інфармацыю пра археолагаў, якія здзейснілі адкрыцці. Выкладаючы тое альбо іншае меркаванне адносна аршанскай гісторыі, аўтар падкрэслівае характар яго паходжання, аўтарства. Як прыклад, наступны артыкул: "Канец III тысячагоддзя да н. э. Паўночны ўсход Беларусі (на думку А. Рогалева, вучонага з Гомеля) насялялі плямёны ўграфінаў".

Прарадзімай іх лічыцца Паўночны Урал. Існаванне гэтых паселішчаў на Аршаншчыне ўскосна пацвярджаецца мясцовай тапанімікай. Ёсць меркаванні, што тапонім "Орша" — угра-фінскага паходжання і азначае — праточная вада, рака, або вада, якая цячэ ў рэчышчы".

Праўда, ужо адразу ўзнікае наступная думка. Чаму б не даваць дакладна крыніцу, дзе выказваецца тое альбо іншае меркаванне. Тым самым Святаслаў Асіноўскі надаў бы кнізе большую навуковую грунтоўнасць, падштурхнуў бы чытача да далейшага пошуку, да далейшага даследавання. Дарэчы, некаторыя храналагічныя "прыпынкі" ў даведніку вартыя пашырэння. "1044. Памёр полацкі князь Брачыслаў Ізяславіч — магчымы заснавальнік (каля 1021 года) Оршы". Пра Брачыслава Ізяславіча болей падрабязна расказваецца ў папярэднім артыкуле. Тут версія пра "магчымае заснавальніцтва" пашыраецца, але ўсё ж не набывае дакладных абрысаў. Складваецца ўражанне, што аўтар гаворыць пра сваю ці паўтораную ўслед за В. Ляўко версію як пра нешта зразумелае.

Перайшоўшы разам са сваёю энцыклапедыяй у XV стагоддзе, Святаслаў Асіноўскі выбудоўвае болей цікавыя, змястоўныя артыкулы. Пад 1484 годам — наступнае акрэсліванне: "У дакументах упершыню згаданы Смаляны (вёска ў Аршанскім раёне)". І следам — падрабязны, цёплы аповед. Калі не памыляюся, Смаляны — якраз родная вёска Святаслава Асіноўскага. То, мажліва, якраз тут і хаваюцца штрыхі ў наступную кнігу аўтара "Аршанскай энцыклапедыі"? Смаляны, безумоўна ж, вартыя асобнай кнігі.

Самым сур'ёзным чынам прадстаўлена ў кнізе XIX стагоддзе. Яно і зразумела. Падставы для гэтага дае большая колькасць крыніц, ды і таксама большая колькасць ілюстрацыйнага матэрыялу. І аўтар напоўніцу выкарыстоўвае гэты шанц, па кроплі збіраючы цікавыя, адметныя аршанскія, скажам так, факты. Спакваля ўчытваючыся, углядваючыся ў асобныя раздзелы даведніка, пачынаеш асэнсоўваць сапраўдную яго ролю. "Орша..." Святаслава Асіноўскага — тое свято, што падказвае працяг для далейшай працы ў межах той альбо іншай камернай аршанскай тэмы.

Вядомы пісьменнік Уладзімір Арлоў у прадмове да "Оршы..." даў наступную ацэнку кнізе Святаслава Асіноўскага, падкрэсліўшы, што яна "вабіць ужо загадкава-прыгожаю назвай "Залатыя стрэлы на блакітным полі..." Магчыма, не кожны жыхар сённяшняй Оршы ведае, што гэта — герб яго роднага горада. Горада з зайздросным лёсам, які "пісалі" князь Усяслаў Чарадзей і ваяры гетмана Канстанціна Астрожскага, адукаваныя манахі Куцеінскага манастыра і камандзір інсургентаў 1863 года Ігнат Будзіловіч... Не, зусім не выпадкова гэты горад даў Беларусі Уладзіміра Караткевіча, аповесці і раманы якога зрабілі ў свой час, напэўна, болей за цэлы акадэмічны Інстытут гісторыі.

"Залатыя стрэлы" раняць соннага, але смяротна небяспечнага звера — беспамяцтва, які затаіўся ў многіх з нашых суайчыннікаў. На добры лад, кнігу накшталт той, якую вы зараз трымаеце ў руках, павінен дачакацца кожны са старажытных беларускіх гарадоў: Полацк і Навагрудак, Гародня і Нясвіж, Ліда і Слуцк... Няхай гэта здарыцца яшчэ ў нашым стагоддзі". Няхай бы збыліся гэтыя словы Уладзіміра Арлова. Мо нават свой уклад у рэалізацыю іх унясе і той жа Святаслаў Асіноўскі.



Самы славуты з гарадскіх помнікаў даўніны ў Оршы — куцеінскі Богаяўленскі манастыр на левабярэжжы Дняпра. Пачатак яго гісторыі адносіцца да 1620 года, калі ад патрыярха Іерусалімскага Феафана была атрымана грамата на заснаванне праваслаўнага манастыра.

Сёння ў Куцейне захаваўся і дзейнічае адзін з помнікаў беларускага барока — Святадухаўская царква (на здымку).

*Фота Аляксандра ХІТРОВА, БелТА.*

ЖЫЦЦЁВЫЯ СЮЖЭТЫ

# РАМАН ПРАЦЯГЛАСЦЮ Ў ПАЛОВУ ВЕКУ

**Глава III.**

## СТРАСЦІ ПА ГАЛІВУДУ

Яна вельмі пакутуе, што вандроўкі яе цяпер спыніліся. Не столькі з-за нездароўя, колькі па іншых прычынах: усё стала замежжам, нават любімы Кіеў, дзе яна калісьці атрымала свой першы аўтограф ад вялікага рускага акцёра Мікалая Чаркасава. Але Валянціна Сачок усё ж знайшла выйсце: калі хто-небудзь са знаёмых едзе ў Маскву, Кіеў ці Санкт-Пецярбург, яна побач з кожным прозвішчам і тэлефонам, каму трэба там пазваніць, піша некалькі слоў пра сябе, пакідаючы месца і для адказу.

Але два гады таму назад пашанцавала: яе стрыечная ўнучка, што пераехала на пастаяннае месца жыхарства ў ЗША, запрасіла да сябе ў госці, аплаціўшы расходы на дарогу. Як тут устаяць ад такой спакусы! І, забыўшыся на ўсе свае хваробы, адправілася Валянціна Ігнатаўна ў ЗША з тайнай марай пабываць у Галівудзе.

...Быць так блізка ад Галівуда і не трапіць туды з прычыны адсутнасці грошай і машыны — здавалася, сэрца яе не вытрымае такой несправядлівасці. Але сваё гасцяванне ў Атланце, той самай Атланце, дзе разгортваліся падзеі рамана "Унесеныя ветрам" і пастаўленага паводле яго фільма, што набыў сусветную славу, Валянціна Ігнатаўна выкарыстала максімальна. Яна наведала ўсе мясціны, звязаныя са Скарлет О'Хара і Рэтам Батлерам — паблукала па гарадскім парку, адпачыла ў альтанцы, так любімай Скарлет, пабывала на набярэжнай, што носіць імя гэтай гераіні, пакаталася на параходзе "Скарлет О'Хара"... І, вядома ж, наведалася ў магазін цацак, дзе выстаўлена цэлая галерэя лялек з аблічам славутых галівудскіх "зорак", а Скарлет — Вівьен Лі з усім сваім гардэробам тут на першым месцы і карыстаецца вялікім попытам. Не ўтрымалася Валянціна Ігнатаўна і з "Рэтам Батлерам", які гасцінна сустракае ўсіх ля дзвярэй сувенірнага магазіна, сфатаграфавалася.

Між іншым, у газеце горада Атланты "Русский дом" потым з'явіўся матэрыял пра нашу мінчанку, яе адданую любоў да кінематографа і ўсяго, што з ім звязана.

Не меншай радасцю для Валянціны Ігнатаўны была і сустрэча з некалькімі старадаўнімі сябрамі, якія на той час ужо не першы год жылі ў ЗША. Дзякуючы ім, яна ўбачыла значна больш. Былая мінчанка Станіслава Мільгуй запрасіла да сябе ў Мінеапаліс, а адтуль Валянціна Ігнатаўна адправілася на ўзбярэжжа Ціхага акіяна ў горад Сан-Дзіега ("быццам у казку трапіла") да сяброўкі па Кіеву Марыі Цяпліцкай. Нават Кірыл Лаўроў (так, той самы вядомы піцерскі акцёр) у сваім пісьме крыху пазайздросціў, а больш парадаваўся за Валянціну Ігнатаўну, што вы-папа ёй цэлы месяц пагасцяваць у Амерыцы, пабачыцца са сваякамі і старымі сябрамі.



*Не кожнаму шанцуе ўбачыць агаву, якая цвіце раз у сто гадоў.*



*Сустрэліся ў Мінеапалісе старыя сяброўкі Валя і Стася.*

Іх знаёмства і сяброўства пачалося вельмі проста: аднойчы яна выпадкова даведалася, што славуты Лаўроў збірае паштоўкі з відамі Пецярбурга. Валянціна Ігнатаўна паслала яму ў падарунак рэдкую паштоўку, выпушчаную на пачатку XX стагоддзя. І завязалася перапіска, якая доўжыцца ўжо не першы год, і, мяркуючы па ўсім, цікавая абодвум адрасатам. Няхай даруюць мне ў Міністэрстве культуры Беларусі за тое, што выдам маленькі сакрэт: калі ў Кірыла Лаўрова быў юбілей, то, шукаючы яго хатні адрас, каб паслаць славутаму акцёру віншаванне, выйшлі яны менавіта на Валянціну Ігнатаўну.

Калісьці Мікалай Рэрых выказаў простую, але мудрую ісціну: любую справу, нават мыццё падлогі, можна рабіць так, што гэта стане творчым працэсам. Проста трэба цалкам гэтаму аддавацца і думаць аб тым, якую радасць прынясе гэтая справа яшчэ некаму.

Пра акцёрскую ўдзячнасць Валянціне Ігнатаўне за ўвагу і любоў да іх мы ўжо расказвалі. Але не менш удзячныя ёй тэлежурналісты і газетчыкі, якія пішуць аб кіно і нярэдка звяртаюцца да яе за неабходным матэрыялам.

Чалавек, адораны да ўсяго яшчэ і пачуццём гумару, Валянціна Ігнатаўна іншы раз сама сябе называе "малахольнай бабуляй". Але, калі б існавала афіцыйнае званне "заслужаны глядач рэспублікі", то першай яго, безумоўна, атрымала б гэтая дзіўная жанчына.

Я зноў наведалася ў госці да Валянціны Ігнатаўны. Яе маленькая аднапакаёвая кватэра на Партызанскім праспекце нагадвае музей, і бываць тут заўсёды цікава. Не, антыкварыят адсутнічае, затое ўсе сцены завешаны фотаздымкамі акцёраў і старадаўнімі фатаграфіямі сваякоў. Калі ёсць магчымасць зрабіць падарунак, гаспадыня з лёгкасцю расстаецца з дарагімі рэліквіямі: Міхаілу Ульянаву падаравала буклет 1906 года, прысвечаны юбілею славутага кіеўскага антрэпрэнёра Салаўцова, музею Чайкоўскага ў падмаскоўным Кліне — адзін з рэдкіх фотаздымкаў кампазітара...

Гаспадыня паказвае мне "экспанаты", сярод якіх кніга пра Андрэя Міронава з даравальным надпісам яго маці Марыі Уладзіміраўны; амерыканскія часопісы, цалкам прысвечаныя "people extra", "зоркам" Одры Хёпберн і Элізабет Тэйлар, — падарунак стрыечнай унучкі.

І хаця ў гэтай кватэрцы жыве ўсяго адзін чалавек, яна густанаселеная. Валянціна Сачок даўно засталася адна, але ніколі не была адзінокай — ці гэта таксама не талент?!

**Маргарыта СТАРЫХ.**

Фота з архіва В. І.



*Валянціна Ігнатаўна з "Рэтам Батлерам".*




*Прыстань "Скарлет О'Хара" на возеры ў прадмесці Атланты.*




*У Сан-Дзіега з Марыяй ЦЯПЛІЦКАЙ.*



ВІЗІТНАЯ КАРТКА



# ПРЫЦЯГАЛЬНЫ «БЕРАГ БЕЛЫХ БУСЛОЎ»

"Разумею цяпер, чаму з выраю жураўлі на Палессе ляцяць..." Гэтыя словы з папулярнай песні прагучалі з вуснаў беларускай землячкі з Саўт-Рывера Стасі Сумскіх за гасцінным сталом развітальнай вячэры ў старажытным Тураве. Прызнанне невыпадковае, бо Палессе заўсёды было і будзе крыніцай неацэнных духоўных скарбаў.

З любоўю, пашанай і замілаваннем аднасяцца да фальклорнай спадчыны замежныя суайчыннікі. Яны добра ўсведамляюць найдаражэйшы запавет нашчадкам, выказаны ў свой час Янкам Купалам: родная песня і роднае слова — калі разумець іх як духоўны набытак і мастацкі скарб нацыі — дапамогуць хутчэй вывесці сваю Бацькаўшчыну ў людзі, да блізкіх і далёкіх суседзяў, каб у цэлым свеце яе знаці і шанавалі, паважалі як роўную сярод роўных.

Амерыканскія землякі шчыра садзейнічаюць захаванню і папулярызацыі мастацкіх вартасцей народных традыцый, бо яны не губляюць сваёй ролі і сёння, задавальняючы духоўныя запатрабаванні самага шырокага кола людзей. З кожным прыездам на радзіму суайчыннікі імкнуцца душой далучыцца да гэтага дзівоснага хараства, прыгубіць з гэтай чароўнай крыніцы. І тут як нельга да месца вядомыя радкі:

Спакон вякоў пяе народ,
І песні б'юць жывой крыніцай.
Я з плыні тых крыштальных вод
Ўсё п'ю — і не магу напіцца.

... У той год замежным суайчыннікам надзіва пашанцавала. Яны пазнаёміліся ў час паездкі па краіне з мастацкім кіраўніком Беларускага саюза фалькларыстаў Міколам Котавым, носьбітам каштоўных нацыянальных народных традыцый музычна-песеннага, танцавальна-бытавога і каляндарна-абрадавага жанраў. Ды яшчэ — выдатным танцорам і культурным арганізатарам. Таму ў час паездкі, на прывалах сярод спелай збажыны і хвойных узлескаў, забавам і весялосці, здаецца, не было меры. І на месцах "дыслакацыі" — у Слуцку, Століне, Тураве — ён быў сваім чалавекам. Гасціннасць, павага і сардэчнасць гаспадароў да замежных землякоў былі таму яскравым доказам.

Мікола Котаў падзяліўся з аднадумцамі марай аб стварэнні ім незвычайнага, бадай, унікальнага фальклорнага тэатра ў адным з мікраёнаў Мінска (пабудаваных для перасяленцаў з радыяцыйна-чарнобыльскай зоны) для захавання дзівоснай палескай спадчы ны. І назву тэатру прыдумаў неардынарную — "Бераг белых буслоў", таму што буслы на Палессі — сімвал дабрыні, пяшчоты, ласкі і спакою. Суразмоўцы Мікола Янка Запруднік, Жорж Навумчык, Сцяпан Медзвядок з вялікай цікавасцю падтрымалі ідэю.

З той пары прайшло тры гады. Тэрмін для тэатра амаль дзіцячы. Але з дзейснай дапамогай землякоў-суайчыннікаў ён распасціраe свае крылы, ідзе на ўзлёт. Ідэя набыла пэўную матэрыялізацыю. За кошт сяброўскага спонсарства закуплены тэатральны рэквізіт, музычныя інструменты, сцэнічныя касцюмы. А што больш трэба?!

Ад узмахаў крылаў палескіх белых буслоў у мікраёне Малінаўка нібы перасяліліся калядныя, купальскія, юр'еўскія, велікодныя, жніўныя святы з іх традыцыйнымі рытуальнымі асаблівасцямі. Жывая тэатралізацыя спалучаецца з цудоўнай мелодыяй, вясёлай песняй, запіхвацкім танцам.

— Мы робім усё магчымае, каб дзівосныя паэтычныя скарбы зберагчы і захаваць для нашчадкаў, каб гэты багаты і ўдзячны матэрыял служыў характарыстыкай гістарычнага лёсу, жыцця і побыту жыхароў палескага рэгіёна, каб забавы і ўвесяленні, карагодныя і гульневыя песні развівалі ў людзей здаровы эстэтычны густ, — абгрунтаваў сваю задуму Мікола.

У рэпертуары фальклорнага тэатра народная творчасць у жанравых адносінах надзвычай разнастайная. Яна ахоплівае многія віды мастацкай прозы, музычна-песенных набыткаў. Хто б ні прыехаў у Мінск з амерыканскіх сяброў, Мікола абавязкова падзеліцца з імі радасцю творчага здабытку калектыву, бо здабыткам лічыць іх агульныя намаганні па перадачы з пакалення ў пакаленне духоўнай творчасці народа, непаўторнага паэтычнага хараства.

Мікола Котаў — мастацкі кіраўнік фальклорнага тэатра "Бераг белых буслоў" дзякуе ўсім беларусам-суайчыннікам за маральную і матэрыяльную падтрымку:

— Выбачайце, калі ласка, што, акрамя Адольфа Суботы, Надзі Запруднік, Жоржа Навумчыка, Стасі Сумскіх, Лізы і Лёні Лютаровіч, Стэфані Міровіч я не ведаю іншых прозвішчаў суайчыннікаў з Амерыкі, Канады, Аўстраліі, якія так шчодра дапамагаюць тэатру. Буду вельмі ўдзячны, калі яны адгукнуцца на маю просьбу і прышлюць хоць паштоўкі на маё імя і паведамяць свае адрасы, бо ў прэсе — газетах і часопісах, па радыё і тэлебачанні я вельмі часта дзякую ўсім замежным суайчыннікам за іх падтрымку, клапатлівую стараннасць у справе адраджэння Бацькаўшчыны. Дзякуй вам за гэта, мае любыя дружбакі-землякі! Мой адрас: 220030, г. Мінск, вул. Слабодская, дом 117, кв. 201. Тэлефон: 211-94-40.

**Адольф СУРЫНОВІЧ.**

*На здымку: Сцяпан МЕДЗВЯДОК і Мікола КОТАЎ (справа).*

БЕЛАРУСКАЕ ЗАМЕЖЖА

# БЕЛАРУСЫ Ў РАСІІ

## (РАСІЙСКАЙ ФЕДЭРАЦЫІ)

У 1676 годзе яе абсталяванне атрымаў Маскоўскі друкарскі двор. Ураджэнец Мсціслаўшчыны Ілья Капіевіч (Капіеўскі) выдаў на рускай мове ў Амстэрдаме, Гданьску і Маскве каля 20 кніг (слоўнікі, падручнікі па граматыцы, арыфметыцы, астраноміі, навігацыі) новым рускім алфавітам. Выхадцы з беларускіх земляў і іх нашчадкі былі ў ліку першапраходцаў, пачынальнікаў геаграфічнага і этнаграфічнага вывучэння карэнных народаў Прыўралля, Сібіры, Чукоткі, Камчаткі (А. Каменскі-Дружык, Л. Сеніцкі, І. Казырэўскі, І. Яўрэінаў і інш.). Калектыў першага ў Расіі прыдворнага тэатра (1672—1676) амаль цалкам складаўся з беларусаў Мяшчанскай слабады. Многія беларускія музычныя дзеячы ў XVII стагоддзі плённа працавалі ў Расіі (А. Беражанскі, І. Дзякоўскі, І. Календа, І. Канюхоўскі, Д. Рагачэўскі, З. Гламазінскі).

У другой палове XVII стагоддзя дзесяткі майстроў-рамеснікаў з Полацка, Віцебска, Оршы, Шклова, Магілёва і інш. гарадоў працавалі ў Збройнай палаце, аздаблялі церамы Крамля, Каломенскі палац, Навадзевічы, Данскі і Нова-Іерусалімскі (на Істры) манастыры. Беларускія майстры прынеслі ў Расійскую дзяржаву новыя рамёствы, свой адметны стыль, матывы і тэхніку скульптурнай разьбы па дрэву ("беларуская рэзь"), вытворчасць паліхромнай паліванай керамікі. Сваё майстэрства яны праявілі ў іканапісе, жывапісе, ювелірнай справе, культавым і свецкім дойлідстве. Сучасныя даследчыкі прыйшлі да высновы, што Сімяон Полацкі і А. Белабоцкі былі пачынальнікамі асветніцтва на рускіх і ўсходнеславянскіх землях, а мастацкія прынцыпы барока Расія пераймала праз творы Сімяона Полацкага, В. Пазнанскага, С. Палубеса, В. Кораня.

**Беларусы па-за сваімі этнічнымі межамі ў складзе Расіі XIX стагоддзя.** Пасля далучэння беларускіх земляў да Расіі ў выніку трох падзелаў Рэчы Паспалітай (1772, 1793, 1795), узброеных праяў нацыянальна-вызваленчага руху ў Беларусі ўлады выслалі ў розныя рэгіёны дзяржавы па палітычных матывах тысячы асоб, пераважна дробнай і сярэдняй шляхты: удзельнікаў паўстанняў 1794, 1830—1831, 1863—1864 гадоў, прыхільнікаў аднаўлення ВКЛ у час паходу Напалеона ў Расію ў 1812 годзе. У 1820—1840 гадах у Расію ссылаліся дзекабрысты, удзельнікі тайных таварыстваў патрыятычнай моладзі ў Літве і Беларусі (філаматы, філарэты, зараные і інш.). Пасля падаўлення паўстання 1863—1864 гадоў у Беларусі і Літве было саслана на катаргу ў Сібір і арыштанцкія роты 12 355 чалавек, высланы без следства і суда 3 776 чалавек. Сярод іх былі прадстаўнікі шляхты, мяшчане, сяляне.

Пасля адмены прыгоннага права сялянская міграцыя (адыход на заработкі ў іншыя губерні Еўрапейскай Расіі, перасяленне ў Сібір і на Далёкі Усход) набыла сталы, а затым, на рубяжы XIX — XX стагоддзяў, і масавы характар. Выездзу ў пошуках больш высокага заработку, незанятай ці таннай зямлі спрыяла развіццё чыгуначнай сеткі ў Беларусі і Расійскай імперыі, адкрыццё ў канцы XIX стагоддзя Транссібірскай магістралі. Паводле расійскага перапісу 1897 года, за межамі губерняў з пераважна беларускім насельніцтвам (Віленская, Віцебская, Гродзенская, Магілёўская, Мінская) пражывала 540 тысяч іх ураджэнцаў. Перасяленне беларусаў, якія афіцыйна лічыліся адгалінаваннем рускага этнасу, заахвочвалася ўладамі і было выклікана расслаеннем і абеззямельваннем сялянства, адсутнасцю развітой прамысловасці, якая паглынула б лішак рабочай сілы. З канца XIX стагоддзя павялічыўся прыток беларускай інтэлігенцыі ў расійскія гарады. У 1861—1913 гадах прыблізна 1,5 мільёна чалавек з беларускіх губерняў выехала па эканамічных прычынах пераважна ў Еўрапейскую частку Расіі, Сібір, на Далёкі Усход, але ў 1895—1900 гадах кожны сёмы (14 працэнтаў) з іх затым вярнуўся ў родныя мясціны. Нацыянальны ўціск беларускага народа ў Расійскай імперыі, незавершанасць станаўлення беларускай нацыі вялі да паскоранай асіміляцыі мігрантаў, але даследчыкі адзначаюць і пэўнае захаванне імі мовы, звычаяў, традыцый, этнічных прыкмет у адзенні, харчаванні, побыце, будаўніцтве, вядзенні гаспадаркі.

Наяўнасць сярод перасяленцаў беларускай інтэлігенцыі абумовіла з'яўленне па-за этнічнымі межамі Беларусі нацыянальна арганізаванага культурнага і палітычнага жыцця. Адным з важных яго цэнтраў стаў Пецярбург. З 40-х гадоў XIX стагоддзя тут зарадзіўся беларускі літаратурна-грамадскі рух (беларуска-польскі грамадскі гуртоk Р. Падбярэзскага — Я. Баршчэўскага), які набыў большую нацыянальную адметнасць у другой палове XIX — на пачатку XX стагоддзяў. Беларуская інтэлігенцыя стварыла ў Пецярбургу першыя нацыянальныя арганізацыі: асветную — "Крывіцкі вязок" (1868) і палітычную — "Гоман" (1884). Існаванне апошняй сведчыць, што беларуская нацыянальна-грамадская думка гэтага часу развівалася пад уплывам рускай народніцкай ідэалогіі. Група "Гоман" належала да беларускай фракцыі партыі "Народная воля", адным з заснавальнікаў якой быў І. Грынявіцкі. Акрамя яго прыкметную ролю ў рускім рэвалюцыйна-дэмакратычным руху адыгралі беларусы М. Судзілоўскі, Р. Ісаеў, С. Кавалік. Мэтай пецярбургскага нелегальнага Гуртка моладзі польска-літоўска-беларускай і малярускай (1889—1893) была прапаганда сацыялістычных ідэй (А. Гурыновіч і інш.). Дзейнічаў Круг беларускай народнай прасветы і культуры.

Творчая спадчына выхадцаў з Беларусі ўзбагаціла рускую навуку і культуру. Некаторыя з высланых у розныя куткі Расіі беларусы зарэкамендавалі сябе таленавітымі даследчыкамі прыроды, побыту, традыцый, мовы народаў Сібіры, Крайняй Поўначы, Далёкага Усходу: І. Чэрскі, Б. Дыбоўскі, Э. Пякарскі, А. Янушкевіч, В. Кавалеўскі, М. Віткоўскі, А. Чаканоўскі, Э. Гадлеўскі. Значны ўплыў на развіццё рускай навукі аказалі таленавітыя фізікі І. Яркоўскі, Ж. Урублеўскі, А. Садоўскі, К. Чаховіч, хімік Э. Урублеўскі, біёлаг А. Кавалеўскі і палеантолаг У. Кавалеўскі.

Гонарам Расіі сталі беларусы М. Пржавальскі (Перавальскі) — славуты географ і падарожнік, даследчык Цэнтральнай Азіі, заснавальнік Расійскага мінералагічнага таварыства, ураджэнец Магілёўшчыны прафесар С. Куторга, рэктар Казанскага універсітэта, ураджэнец Міншчыны астраном З. Дубяга, дыпламат, даследчык Японіі і Кітая І. Гашкевіч. Вядомасць набылі выхадцы з Беларусі — кампазітар В. Казлоўскі (аўтар расійскага гімна "Гром победы, раздавайся", першага расійскага рэквіема), спявачка, музычны педагог Г. Жарабцова-Андрэева, літаратурны крытык С. Дудышкін і іншыя. У 1800 годзе артысты балета Шклоўскага тэатра Зорыча былі пераведзены ў балетную трупу Пецярбургскіх імператарскіх тэатраў, а аркестр — у Маскву. Імёны выхадцаў з Беларусі мастакоў І. Аляшкевіча, С. Заранкі, К. Хруцкага, якія працягл час жылі і працавалі ў Маскве і Пецярбургу, увайшлі ў гісторыю рускага мастацтва. В. Бялыніцкі-Біруля і С. Жукоўскі былі членамі таварыства перасоўных выстаў.

Працяг.
Пачатак у №№ 9—10.

## ПАГОНЫ ДА ТВАРУ І ЖАНЧЫНАМ


*Майстар парашутнага спорту старшы сяржант Наталля КУЧЫНА.*

Сёння ва Узброеных Сілах Рэспублікі Беларусь служаць больш за 4 тысячы жанчын, сярод іх 92 носяць пагоны афіцэраў і больш за 600 — прапаршчыкаў, а звыш 3,5 тысячы жанчын-салдат і сяржантаў праходзяць службу па кантракту. Больш за ўсё іх у часцях і падраздзяленнях тылу, сувязі, у медыцынскіх установах.

Дзякуючы некаторым асабістым якасцям — далікатнасці, стараннасці, выключнай добрасумленнасці і працавітасці, нярэдка жанчыны нават апярэджваюць мужчын пры выкананні службовых абавязкаў. Таму ва ўсіх арміях свету назіраецца рост колькасці жанчын-ваеннаслужачых і асабліва сярод афіцэраў. Беларускія Узброеныя Сілы не выключэнне.

*Фота Мікалая ПЯТРОВА, БелТА.*


*У адной брыгадзе служаць падпалкоўнік Юрый УШАКОЎ і яго жонка яфрэйтар Галіна.*


*Прыгажосць перш за ўсё.*

## КНІГАЗБОР

# ...ПАМЯТАЙ ПРА БРЫЯФІЛІЎМЫ

**Алесь ЛЮШКЕВІЧ.**

У КНІЗЕ Святланы Бязлепкінай "Чарнобыльская русалка" ёсць такое апавяданне — "Памятай пра брыяфіліўмы". Калі даваць ацэнку ўвогуле ўсяму зборніку, то ў прынцыпе і не самае вызначальнае апавяданне. Расказваецца ў ім пра дзіўны дар, здольнасць жанчыны вылечваць чужыя немачы, прадбачыць нядобрае... Богам дадзены Алене Іванаўне дар быў падгледжаны адной жанчынай. І тая прапаноўвае "аб'яднацца". Салон прыгажосці "У Яніны" гатовы прадаставіць самы вялікі і самы ўтульны кабінет для лячэння людзей. Абсталяванне, рэклама, арганізацыйныя клопаты — за кошт салона. Але Алена Іванаўна, адмаўляючыся, расказвае адну маленькую гісторыю: "У 1991 годзе, калі распусцілі кампартыю, мой муж з пасады сакратара абкома пайшоў... у нікуды... Ніхто не хацеў, лепш сказаць, ніхто не асмельваўся браць яго на працу. Тры месяцы ён вазіў "чаўнакоў" у Польшчу на сваіх "Жыгулях". Я лячыла ў той час цяжарную пляменніцу ад тромбафлебіту. Жаданае другое дзіця, ніякіх прэпаратаў, надзея толькі на народныя метады. Шырокія падаконнікі ўсіх маіх пяці акон былі застаўлены гаршкамі з брыяфіліўмамі. Яны сталі для мяне даражэйшымі, чым пяшчотныя фіялкі, вясёлыя герані і нават велічнае "сямейнае шчасце". Я размаўляла са сваімі зялёнымі "дактарамі" (ці "асістэнтамі"?), усміхалася ім, адных хваліла, другіх ушчувала. А потым горача прасіла прабачэння, крэмсаючы на роўныя кавалкі і адпраўляючы ў цёмныя бутэлькі са спіртам.

Пляменніца падлячылася, нарадзіла дзіця і паехала да маці — маёй сястры, у Падмаскоўе. На падаконніках засталося шмат жыццярадасных лапушыстых "дактароў". А што, калі развесіць на слупах аб'явы? "Лячу варыкознае расшырэнне вен народнымі сродкамі" — амаль так напісала я на паперках і пачала чакаць мужа з Польшчы. Прэч "чаўнакі", бяссонныя ночы на мяжы, небяспечны бізнес! Якія былі намеры!

Я не паспела нават вывесіць аб'явы — усе мае непераборлівыя брыяфіліўмы загінулі ў адну ноч. Гэта было неверагодна! Расліна выжывала без паліву месяц і болей. Яе можна было зрэзаць і паставіць у ваду — хутка з'яўляліся карэньчыкі, а вада не загнівала ніколі. Пакаёвы "жэньшэнь" не баяўся, здавалася, нічога. А тут — недарэчная гібель. Так я зразумела, што дар не прадаецца! Ён прыходзіць калі-нікалі, раз у тры ці пяць гадоў, урываецца на імгненне, на тыдзень ці месяц, а потым зноў пакідае мяне, каб вярнуцца, не ведаю праз колькі. І ў мінуты спакусы я гавару сябе: "Памятай пра брыяфіліўмы!"...

Кніга апавяданняў Святланы Бязлепкінай — пра сучаснасць, пра нашу паслячарнобыльскую Беларусь, ці нават хутчэй — пра паслячарнобыльскіх беларусаў. Пісьменніца не спяшаецца аналізаваць шырокамаштабныя сацыяльныя, грамадскія з'явы. Празаічная манера, мастакоўская манера С. Бязлепкінай зводзіцца да камернага, абмежаванага па колькасці дзеючых асоб, асэнсавання таго, што ж у нашых душах валадарыць — дабро ці зло. Літаратар задаецца пытаннем: "Куды ты ідзеш, чалавек? Да якіх вартасцяў, каштоўнасцяў цягне цябе? Каму ў палон, у няволю гатовы сябе ты прадаць?" У творах не прасочваецца асаблівая дынаміка. Але гэта, калі разглядаць вонкавыя малюнкі. Піша ж яшчэ Бязлепкіна (і тут проза яе нагадвае раннія — асабліва з кнігі "Асеннія халады" — апавяданні Алеся Жука) і фарбамі ўнутраных колераў. Паказальнае, яскравае ў гэтым плане апавяданне "Ружы і Радзіма". У Швецыі жанчына з Брагіна сустракаецца з колішнім суайчыннікам Камароўскім Васем, які калісьці адважыўся стаць тэрарыстам і ўгнаць самалёт у Швецыю. Вельмі ўжо дастойна хочацца выглядаць Камароўскаму перад землякамі, іншымі чарнобыльцамі, хто трапіў у капіталізм хаця б на месяц, дзякуючы дабрачыннаму фонду. Хочацца і выглядаць, хочацца і забыць, што ў Беларусі засталіся жонка, двое дзетак. Але ж не зусім, далёка не зусім атрымліваецца. Душа вырываецца. Няхай сабе і не словамі... "Элін Юханес не перастае захапляцца дзівацтвамі рускага Васі. Варта толькі прыехаць сюды на адпачынак яго суайчыннікам, як грымслоўскі садоўнік штораніцы нясе ў кожны пакой шыкоўны букет руж. Адміністрацыя не супраць — Вася сумленна разлічваецца за кветкі са свайго заробку... Сёння "рускі" Вася яшчэ больш здзівіў Элін. Ён папрасіў яе паўдзельнічаць у провадах гасцей з Белай Русі. Фрау нешта ведала пра Русь Чырвоную, а вось пра Белую? Менавіта адтуль родам аказаўся садоўнік, і сёння Вася скупіў усе сувеніры ў магазінчыку Гіертсанаў. Такія ахвяры непадуладныя яе розуму — Элін ведае памеры Васінага заробку. Ёй становіцца шкада садоўніка — у Швецыі ў таго ні сям'і, ні дома. Тут у яго ёсць толькі ружы, а ружы ніколі не заменяць Радзіму..."

У прадмове да кнігі Святланы Бязлепкінай вядомы празаік Генрых Далідовіч заўважыў: "Адным з моцных бакоў творчасці Святланы Бязлепкінай з'яўляецца тое, што яна любіць і ўмее пісаць пра сучаснасць. Тут, у гэтай кнізе, — што ні ёсць так званая постсавецкая эпоха, што выпала нам напрыканцы XX стагоддзя". І яшчэ: "У цэнтры ўвагі празаіка — доля старэйшага пакалення, трывогі і пошукі многіх здольных з сярэдняга, узнясенне па-свойму адораных, але хітрых і бездухоўных, няясны лёс нашых дзяцей і ўнукаў, выпрабаванне "заходнім дабрабытам і маскультурай", а да ўсяго "падарунак" Чарнобыля — усё гэта горача пульсуе ў апавяданнях аўтара".

І пра чарнобыльскую бяду Святлана Бязлепкіна піша па-свойму. Расказвае пра ўнутраны стан людзей, вымушаных пакінуць свой родны куточак. І тут ужо спляліся не толькі медыцынскія хваробы, не толькі вонкавыя бядоты чалавека, насельніцтва, але і духоўныя, маральныя праблемы. Чытаючы кнігу "Чарнобыльская русалка", пераконваешся: чалавек пастаянна павінен знаходзіцца ў стане барацьбы, але не гэтулькі за жыццё фізічнае, колькі за душу.

Таму, мусіць, і ў апавяданні "Памятай пра брыяфіліўмы" галоўная гераіня адмаўляецца ад заманлівай прапановы зарабляць сваім дарам грошы. Таму, пэўна, і ў апавяданні "Гданьская гісторыя" героі, выпацкаўшыся неймаверна, імкнуцца да апраўдання, хутчэй — да ачышчэння.

## ЛІРЫЧНЫ НАСТРОЙ

**Генадзь АЎЛАСЕНКА**

* * *

Нібы летні дожджык
сум дзявочы...
Прамільгне...
І сонейка ў акне!
Толькі што
слязьмі блішчэлі вочы —
праз хвіліну —
звонкі-звонкі смех!

Нібы летні дожджык
сум дзявочы...
А з чаго
Ім доўга сумаваць!
Да свавольстваў
з жартамі ахвочы,
Ім бы пыл пускаць
сябрам у вочы,
Хлопцаў
у сябровак адбіваць,
са спаткання
бегчы сярод ночы
з матчынаю хусткай
на плячах...

Нібы летні дожджык
сум дзявочы...
Прамільгне...
І зноў сухія вочы...
Прамільгне...
І сонейка ў вачах!

«Голас Радзімы»
Рэдактар
Наталля САЛУК

Заснавальнікі:
Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь;
Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі;
Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства «Радзіма»).

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках «Голасу Радзімы», не заўсёды супадаюць.
Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку». (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77).
Тыраж 1 639 экз. Індэкс 63854. Зак. 461.
Падпісана да друку 15. 03. 1999 г. у 12.00.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.

НАШ АДРАС:
220005, Мінск,
праспект Ф. Скарыны, 44.
Тэлефоны:
(+375-17) 213-31-97,
213-32-80, 213-30-15,
284-76-56, 213-37-82.